БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

25 кастрычніка 1994 г.
Аўторак
№ 114(13831)
Кошт у розніцу 25 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК



## Кур'ер "ЧЗ"

### ДА МІЖНАРОДНАГА ДНЯ ААН

*24 кастрычніка Сусветнае супольніцтва адзначае 49-ю гадавіну з дня заснавання самай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі — ААН.*

Генеральны сакратар ААН Бутрас Бутрас Галі выступіў з гэтай нагоды з пасланнем.

"Сёння мы ўсе жывём у адзінай сусветнай прасторы,— гаворыцца ў пасланні.— Дзяржавы, што аднойчы вырашылі застацца адасобленымі, цяпер, як аказалася, знаходзяцца ва ўзаемасувязі з іншымі. Вялікія мэты міру, развіцця і дэмакратыі ўсё часцей прадугледжваюць неабходнасць шматбаковых намаганняў".

### ДАРАГІЯ ДЭПУТАТЫ

*Як паведаміў старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Абрамовіч, паводле папярэдніх разлікаў, на арганізацыю кампаніі па выбарах дэпутатаў у Саветы ўсіх узроўняў запатрабуецца 69 мільярдаў рублёў.*

Аднак, паводле некаторых звестак, Міністэрства фінансаў урэзала гэту суму да 52 мільярдаў. Выбары дэпутацкага корпуса будуць каштаваць намнога даражэй, чым выбары кіраўніка дзяржавы, на якія патрачана каля 6 мільярдаў рублёў. Дарэчы, нягледзячы на тое, што парламент не спяшаецца з разглядам Закона аб выбарах, Цэнтрвыбаркам ужо набыў найбольш дэфіцытны "прадукт", неабходны пры яго правядзенні ў жыццё. Для друкавання агітацыйных матэрыялаў, бюлетэняў, справаводства ўжо закуплена 150 тон паперы.

БЕЛІНФАРМ.

### БЕСПРАЦОЎЕ ЗНОЎ "СКАЧА"

*Штомесячны рост беспрацоўя ў Беларусі зноў засведчылі звесткі за верасень Рэспубліканскага цэнтра занятасці насельніцтва.*

Да беспрацоўных далучыліся яшчэ звыш 2 тысяч, і іх агульная колькасць па Беларусі склала 99462 чалавекі.

Наталля ВАЛАКІДА.

### РЭАБІЛІТАЦЫЙНЫЯ ЦЭНТРЫ ЮНЕСКО

*У рамках праграмы "ЮНЕСКО-Чарнобыль" на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Расіі будуць адкрыты 9 цэнтраў псіхалагічнай і сацыяльнай рэабілітацыі насельніцтва. Іх адкрыццё адбудзецца прыблізна ў канцы лістапада бягучага года.*

Зразумела, што для ажыццяўлення такіх праектаў патрэбны немалыя грошы. Так, французскае аддзяленне міжнароднай жаночай арганізацыі "Зонта Інтэрнэшнл" правяло ў Парыжы распродаж больш чым 200 твораў сучасных расійскіх і ўкраінскіх мастакоў. Вядомы аргенцінскі піяніст Міхель Ангель Эстрэла, які мае тытул "Пасол добрай волі ЮНЕСКО", даў дабрачынны канцэрт у Ліёнскім оперным тэатры. У канцэрце прынялі таксама ўдзел маладыя музыканты з Украіны. Цікава, што яго запісалі на кампакт-дыск. Сродкі, сабраныя ад продажу карцін, білетаў на канцэрт і кампакт-дыскаў, накіраваны на стварэнне рэабілітацыйных цэнтраў ЮНЕСКО.

Святлана КУЛІКОВА.

### ШПРЫЦЫ – НЕ ДЭФІЦЫТ

*На мінскім заводзе "Электроніка" асвоены выпуск аднаразовых шпрыцаў для інсуліну і процітуберкулёзных вакцын.*

Праблема аднаразовых шпрыцаў заўсёды была вострай з-за таго, што на беларускіх прадпрыемствах яны да нядаўняга часу не выпрабляліся, а за пастаўляемыя з блізкага замежжа прыходзілася плаціць валютай.

Беларуска-дацкае сумеснае прадпрыемства на базе завода "Электроніка" кожны месяц выпускае 400 тысяч аднаразовых шпрыцаў і мае намер да канца гэтага года павялічыць выпуск да аднаго мільёна. Уся прадукцыя расходзіцца па медыцынскіх установах рэспублікі.

Вячаслаў ІШЧАНКА.

### ЗАМЕСТ МЛЫНА – МУЗЕЙ

*Ёсць у калгасе "Дружба народаў" Смаргонскага раёна старажытны будынак вадзянога млына. Рэстаўрацыю яго завяршылі мясцовыя ўмельцы. У бліжэйшы час у ім адкрыецца рэгіянальны музей фальклору і сялянскага быту.*

Матэрыялы экспазіцыі раскажуць пра самадзейныя мастацкія калектывы, мясцовых народных умельцаў, а таксама паэтаў, кампазітараў і іншых выдатных людзей — ураджэнцаў раёна. Асобная экспазіцыя будзе прысвечана ўмовам жыцця і быту тутэйшых сялян. Размесціцца музей у вёсцы Валэйкавічы, дзе, дарэчы, створаны аднайменны фальклорны народны калектыў.

БЕЛІНФАРМ.

### ШТО ПА ЧЫМ У БОЖЫМ ХРАМЕ?

*Калі раней нават гаварыць пра грошы ў царкве было няёмка, то цяпер і тут ёсць своеасаблівы "прэйскурант".*

Напрыклад, вянчанне каштуе ў сярэднім 20 тысяч рублёў, хрышчэнне — 10 тысяч, малебен — 1 тысячу і гэтак далей.

Каб замаліць грахі, таксама неабходны грошы, але ці дапамогуць яны?

Ганна МАСЛЯКОВА.

### НАДМАГІЛЬНЫ ПОМНІК У ЗАПАС

*Жыхарка Маладзечна С. купіла сабе загадзя надмагільны помнік.*

Цяпер ён стаіць на балконе і чакае, калі памрэ гаспадыня. І хоць пакуль (тфу-тфу), пенсіянерка рабіць гэта не збіраецца, яна вельмі задаволена пакупкаю, якая ўлетку абышлася ёй усяго ў 300 тысяч рублёў. Цяпер жа за такі ж помнік людзі плацяць у дзесяць разоў больш.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

**Курсы валют на 24 кастрычніка:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 6240 | 6590 | 4134 | 4389 |
| "Алімп" | 6250 | 6620 | 4160 | 4355 |
| "Дукат" | 6400 | 6750 | 4000 | 4550 |

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

## Заўтра будзе лепш, чым учора?

### Да вынікаў маскоўскай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД

Так атрымалася, што ў аэрапорце "Унукава-2" невялічкая група беларускіх журналістаў затрымалася з адлётам на пяць з лішнім гадзін. Але нездарма кажуць: няма ліха без дабра. Дзякуючы непрадбачанай затрымцы ўдалося ўзяць інтэрв'ю не толькі ў Аляксандра Лукашэнкі, але і ў кіраўнікоў Кыргызстана, Украіны, Азербайджана, Грузіі, Арменіі...

З размовы з імі маскоўскай сустрэчы ў вярхах можна даць такую ацэнку— яна наўрад ці пакіне значны след у гісторыі Садружнасці.

Але пра ўсё па парадку. У пятніцу, 21 кастрычніка, у Крамлі сабраліся кіраўнікі дзяржаў усіх дванаццаці краін —членаў СНД.

Пачаў пасяджэнне Барыс Ельцын, які асабліва вітаў Леаніда Кучму і Аляксандра Лукашэнку, якія ўпершыню ўдзельнічаюць у пасяджэнні Савета кіраўнікоў дзяржаў.

У парадак дня ўключылі 10 пытанняў. Абмяркоўваліся яны, паводле расказу відавочцаў, даволі спакойна, і абстаноўка "ўзарвалася" двойчы. Прычым абодва разы парушальнікам спакою стаў прэзідэнт Беларусі.

Спачатку Аляксандр Лукашэнка назваў "абразай і яго асабіста, і ўсяго беларускага народа" прапанову прызначыць кіраўніком калегіі МЭК — Міждзяржаўнага эканамічнага камітэта — экс-прэм'ера Вячаслава Кебіча. Яўна не чакаўшы такога павароту, прэзідэнт Расіі, які вёў пасяджэнне, быў вымушаны прызнаць, што "гэта ініцыятыва зыходзіла ад Віктара Сцяпанавіча Чарнамырдзіна". Справа закончылася тым, што расійскі прэм'ер узяў сваю прапанову назад.

Дарэчы, невялікая спрэчка адбылася і па пытанню, дзе размесціцца штаб-кватэра МЭКа. Дэлегацыі Беларусі і Украіны прапаноўвалі Мінск, кіраўнікі краін сярэднеазіяцкага рэгіёна — Маскву. Большасць "прапісала" МЭК у сталіцы Расіі.

Утварэнне Міждзяржаўнага эканамічнага камітэта ацэнена экспертамі як самае значнае дасягненне саммітa. Кіраўнікі дзяржаў спадзяюцца бачыць у ім орган, які дапаможа не толькі аднавіць эканамічныя сувязі рэспублік былога СССР, але і паглыбіць, расшырыць інтэграцыйныя працэсы.

Але вернемся да другога "выбуху". Калі лідэры дзяржаў пачалі абмяркоўваць ідэю Нурсултана Назарбаева аб Еўразійскім саюзе, Аляксандр Лукашэнка без дыпламатычных эківокаў адзначыў: "Калі тры першыя пытанні ідуць у развіццё ідэі інтэграцыі СНД, то чацвёртае (ідэя казахскага прэзідэнта) накіравана супраць Садружнасці". Падтрымаў свайго беларускага калегу і расійскі прэзідэнт, які мяркуе, што "сёння народы не гатовы да таго, каб зноў афармляцца ў саюз, як бы ён ні называўся". У выніку вырашылі прыняць прапанаваны Назарбаевым дакумент да ведама, а закладзеныя ў ім ідэі выкарыстоўваць для далейшага паглыблення інтэграцыі.

Ці будуць рашэнні, прынятыя на Маскоўскім самміце, інтэгруючымі для народаў Садружнасці? Адказ на гэта пытанне дасць толькі час.

БЕЛІНФАРМ.

## Добра тое, што добра канчаецца...

*Размова Аляксандра Лукашэнкі з Віктарам Чарнамырдзіным пад час візіту прэзідэнта Беларусі ў Маскву, якая планавалася на 30 мінут, працягвалася дзве гадзіны.*

Разам з прэзідэнтам па адзін бок стала сядзелі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, віцэ-прэм'ер Міхаіл Мясніковіч, міністр па справах СНД Уладзімір Заламай і надзвычайны і паўнамоцны пасол Беларусі ў Расіі Віктар Даніленка. З расійскага боку прысутнічалі Віктар Чарнамырдзін, віцэ-прэм'ер Аляксандр Шохін, першыя намеснікі некалькіх міністраў.

"Гэта былі звышцяжкія перагаворы", — сказаў, каменціруючы іх вынікі, Аляксандр Лукашэнка. Паводле яго слоў, расійскі бок спачатку заняў вельмі жорсткую пазіцыю. Каменем спатыкнення стала запазычанасць Беларусі расійскаму канцэрну "Газпрам" за энерганосьбіты. "У нас цяпер проста няма такіх грошай, каб пагасіць даўгі, — тлумачыў прэзідэнт расійскім кіраўнікам. — Зразумела, вы можаце закрыць засаўку на нафта- і газаправодах. Але ці будзе гэта вырашэннем пытання?"

Паводле слоў удзельнікаў перагавораў, Аляксандр Лукашэнка праявіў і асабістую мужнасць, калі знайшоў у сабе сілы сказаць В.Чарнамырдзіну, што ў эканамічным бязладдзі Беларусі ёсць і пэўная доля віны расійскага Кабінета Міністраў. Пакуль Масква прыглядалася да Лукашэнкі, справа стаяла, аб'ёмы ўзаемнага гандлю знізіліся.

Але нездарма кажуць: добра тое, што добра канчаецца. Урэшце, лёд адчужэння пачаў раставаць, і была дасягнута дагаворанасць "максімальна фарсіраваць работу па падрыхтоўцы і падпісанню міждзяржаўнага дагавора паміж Расіяй і Беларуссю, які будуць суправаджаць яшчэ некалькі дзесяткаў розных пагадненняў".

Са слоў Аляксандра Лукашэнкі стала вядома, што кожныя дзесяць дзён ход падрыхтоўчых работ будзе кантралявацца з абодвух бакоў на вышэйшым узроўні. А ў заключэнне Барыс Ельцын і Віктар Чарнамырдзін прыедуць у Мінск для падпісання галоўнага дакумента.

На пытанне, ці адбудзецца візіт расійскіх кіраўнікоў яшчэ ў гэтым годзе, Аляксандр Лукашэнка адказаў: "Я на гэта вельмі спадзяюся".

Дарэчы, аб падпісанні такога дагавора паміж Расіяй і Украінай паведаміў журналістам і Леанід Кучма. Прычым, паводле яго слоў, Барыс Ельцын наведае Кіеў да ад'езду ўкраінскага прэзідэнта ў ЗША, які намечаны на канец лістапада.

БЕЛІНФАРМ.

## ЗВАРОТ БЮРО ЦК СМБ

### ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А.Р.ЛУКАШЭНКІ

Бюро ЦК Саюза Моладзі Беларусі па даручэнню пленума ЦК СМБ звяртаецца да Вас з просьбай аб аказанні фінансавай падтрымкі адной са старэйшых у нашай дзяржаве газет — "Чырвонай змене".

Заснаваная яшчэ ў 1921 годзе "Чырвоная змена" ўнесла свой важкі ўклад у скарбонку беларускай культурнай спадчыны. Яна была той першай прыступкай, з якой пачынаўся шлях у вялікую літаратуру фактычна ўсіх беларускіх паэтаў і празаікаў гэтага перыяду. З "Чырвонай зменай" звязана таксама ўзыходжанне многіх вядомых дзеячаў навукі, мастацтва, арганізатараў вытворчасці, якімі па праву ганарыцца Бацькаўшчына.

Газета і сёння не здрадзіла сабе. Уся яе дзейнасць накіравана на тое, каб у нашай дзяржаве панаваў грамадзянскі мір, каб людзі жылі ў згодзе са сваім сумленнем, шанавалі сваю родную мову, культуру, аб'ектыўна ацэньвалі падзеі гісторыі. Са старонак "Чырвонай змены" па-ранейшаму працягвае гучаць чысты голас маладых беларускіх літаратараў, сваімі думкамі дзеляцца вучоныя, рабочыя, калгаснікі, вайскоўцы.

Адлюстроўваючы пазіцыю ЦК СМБ, "Чырвоная змена" з павагай ставіцца да таго выбару, які зрабіў беларускі народ у ліпені бягучага года.

Сёння СМБ — самая шматлікая грамадская арганізацыя беларускай моладзі. Але, на жаль, з-за празмерна высокага кошту паліграфічных паслуг і асабліва паперы яна не можа ў поўнай меры падтрымаць сваю газету.

Адзінае выйсце — гэта дапамога дзяржавы. Нельга пазбавіць шматлікіх чытачоў "Чырвонкі" магчымасці сустракацца са сваёй любімай газетай. Бо тыя страты, якія панясе наша нацыянальная культура, у грашовым вымярэнні адлюстраваць будзе немагчыма.

Спадзяёмся на першага прэзідэнта Беларусі, якому праблемы моладзі былі заўсёды блізкімі, тым больш, што пад час перадвыбарнай кампаніі ён неаднаразова выказваў сваю заклапочанасць аб будучыні нацыі.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

### "Суперчэннэл"

#### ФРАНЦЫЯ – НА СТАРШЫНСКІМ МЕСЦЫ

*З 1 студзеня Францыя будзе старшынстваваць у Еўрапейскай супольнасці.*

Прэм'ер-міністр краіны даў з гэтай нагоды інтэрв'ю.

#### ВЫБУХ СУПРАЦЬ АПАЗІЦЫІ

*Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Шры-Ланцы ў час пасяджэння, якое праводзіла апазіцыя, узарвалася бомба.*

57 чалавек загінулі, сярод іх тры лідэры нацыянальнай партыі. Паводле папярэдніх паведамленняў, выбух хацелі выкарыстаць для таго, каб сарваць прэзідэнцкія выбары. Нягледзячы на гэта, выбары ў краіне прызначаны на 9 лістапада.

### "Еўраньюс"

#### КРОК У АДКАЗ

*Іспанскі ўрад патрабуе выгнання з краіны ўсіх грамадзян Егіпта.*

Гэта заява выклікана нядаўнім забойствам у Егіпце трох іспанцаў. Урад Іспаніі патрабуе неадкладнага расследавання злачынства, а таксама прыняцця закона, які б забяспечваў іншаземцам бяспеку знаходжання ў Егіпце.

#### ЕЎРАПЕЙСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ – НЕ?

*У Швецыі і Нарвегіі было праведзена апытанне грамадскай думкі аб уключэнні гэтых краін у Еўрапейскую супольнасць.*

37 працэнтаў насельніцтва Швецыі выказалі сваю згоду па гэтаму пытанню, столькі ж выказаліся супраць. У Нарвегіі 46 працэнтаў — "супраць", 29 — "за".

#### СПІС АХВЯР РАСЦЕ

*У паўночнаафрыканскай дзяржаве Малі ўчынены чарговы тэрарыстычны акт.*

У выніку выбуху на вуліцы 10 чалавек забіта, 10 паранена. З пачатку года на рахунку экстрэмістаў у гэтай краіне ўжо больш як 300 ахвяр.

### "Уорлднэт"

#### ВЕНГРЫ ЎШАНАВАЛІ ПАЎСТАНЦАЎ

*У Венгрыі прайшла цырымонія, прысвечаная Дню памяці загінуўшых удзельнікаў паўстання 1956 года.*

Тады венгерскія грамадзяне выступілі супраць камуністычнага рэжыму і націску з боку авецкага Саюза.

#### АФІНЫ ВЫБРАЛІ КАНСЕРВАТАРА

*У Афінах прайшлі выбары мэра горада.*

Ім стаў прадстаўнік кансерватыўнай партыі аіны, які набраў 58 працэнтаў галасоў.

### "TV-5"

#### СТАЛОНЕ ГУЛЯЕ Ў "ПРЭЗІДЭНЦКІ" ГОЛЬФ

*Суперзорка кінематографа Сільвестр Сталоне пакінуў на нейкі час здымачную пляцоўку і накіраваўся ў Інданезію, дзе сустрэўся з прэзідэнтам краіны Сухарто.*

Сталоне і 73-гадовы прэзідэнт сыгралі партыю ў гольф. Кіназорка збіраецца адкрыць у сталіцы Інданезіі рэстаран, які стане шаснаццатым па колькасці ўстаноў Сталоне.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

Дзяжурныя па выпуску
перакладчык Ларыса ДУДАРУК,
ЛюдмілаКАХАВЕЦ,
рэдактар НаталляВАЛАКІДА.

## ЁСЦЬ ПЫТАННЕ !

### МАЛОЧНЫ ГРЫБ

*"Некалькі тыдняў таму набыла грыб, які нечым напамінае буйны разварены рыс. Гавораць, што "лекавы" квас, настаяны на ім, ачышчае суставы, аднаўляе імунную сістэму. Хацелася б даведацца пра гэты грыб больш падрабязна.*

**Л.ВАРАНКОВІЧ,г.Барысаў".**

Лічыцца, што ён прывезены з Індыі, але ў мінулым пад назвай "кефірны грыбок" яго ведалі і ў нашай краіне.

Напой, які гатуецца на гэтым грыбе, папярэджвае алергічныя захворванні, лечыць хваробы сэрца, прыпыняе кальцыніраванне крывяносных сасудаў, лечыць хваробы печані, жоўцевага пузыра, растварае ў ім камяні, лечыць язву страўніка і дванаццаціперснай кішкі. Грыб выдзяляе шэраг супрацьзапаленчых рэчываў, зніжае канцэнтрацыі ядаў у арганізме, прыпыняе размнажэнне ракавых клетак. Акрамя гэтага, знімае адчуванне стомленасці і спыняе запаленчыя працэсы ў дзяснах.

Сам грыб, калі ён здаровы, белага колеру, шарападобнай формы, дыяметрам 5—6 мм у пачатковы перыяд развіцця і 40—60 мм у стадыі, якая папярэджвае дзяленне. Дзяленне звычайна адбываецца праз 17 дзён, пасля чаго частку грыба можна аддаць іншым людзям.

*Спосаб прыгатавання:*

Узяць чысты шкляны посуд, пакласці ў яго дзве чайныя лыжкі грыба і заліць 0,5 л некіпячонага малака хатняй тэмпературы. Праз 18—20 гадзін малако поўнасцю скісне і набудзе лекавыя ўласцівасці. Прыкметай поўнага згортвання з'яўляецца з'яўленне зверху густога слоя, у якім знаходзіцца грыбок, і аддзяленне сквашанага малака ад дна банкі. Сквашанае малако патрэбна працадзіць праз марлю ў шкляны посуд. Пасля чаго прамыць грыб халоднай праточнай вадой.

Заквашваць малако патрэбна штодзённа.

*Курс лячэння:*

Працэджанае малако прымаюць адзін, радзей два разы ў дзень па 200—250 мл за 30—40 хвілін да сну ці за 30—60 хвілін да яды раніцай. Курс працягваецца на працягу 20 дзён, затым робіцца перапынак на 30—35 дзён і зноў паўтараецца прыём. У ходзе лячэння не рэкамендуецца ўжываць у ежу тлустыя і вострыя стравы, алкаголь і любыя лекі.

### ЦІ ПЛАН, ЦІ ПРАПАЎ

*"Хацеў бы заняцца дробным бізнесам. І вось маё пытанне: навошта пачынаючаму прадпрымальніку бізнес-план і што павінна быць у яго ўключана?*

**Г.БУДЭЙКАЎ,г.Салігорск".**

Бізнес-план павінен пераканаць дапушчальнага інвестара, што вы здольны добра арганізаваць справу і ажыццявіць задуманае. Між іншым, ведаць гэта важна і вам самому. Такія веды дапамогуць пазбегнуць банкруцтва.

Бізнес-план павінен уключаць у сябе адказы прыкладна на такія пытанні: Якая ваша прадукцыя (паслугі)? Хто будзе яе спажыўцом і якая цана яго задаволіць? Як пераканаць яго набыць вашу прадукцыю? Хто вашы канкурэнты і як сябе з імі паводзіць? Якімі будуць вашы затраты і прыбытак хаця б у бліжэйшыя месяцы? Якім чынам вы зможаце фінансаваць ваша прадпрыемства? Якія праблемы могуць узнікнуць у вашым бізнесе і як вы будзеце іх вырашаць?

Складзіце рэальны бізнес-план, і, калі ў ім усё ў парадку, вам можна прадказваць поспех.

### "БІТЛЗ" ЗАСПЯВАЎ ПА-РУСКУ

*"Мне вельмі падабаецца група "Бітлз". Прайшлі чуткі, што іх песні збіраюцца перакладаць на рускую мову і запісваць.*

**В.РУСАК, Віцебская вобласць."**

На фірме "Мелодыя" на самай справе заканчваецца работа над праектам "The Beatles" — назаўсёды". Сама пласцінка павінна выйсці восенню гэтага года. Пачалося ўсё з таго, што маскоўскі паэт і перакладчык Вячаслаў Пціцын (на яго рахунку ўжо ёсць перакладзеная рок-опера "Jesus Christ Superstar") пераклаў вялікую колькасць тэкстаў песняў "Бітлз" і прыйшоў на фірму "Мелодыя" з прапановай выпусціць пласцінку. Да праекта далучыўся вядомы маскоўскі музыкант Вадзім Булікаў. У якасці вакаліста быў прапанаваны Сяргей Мінаеў, але ён па нейкай прычыне адмовіўся. Тады запрасілі маладога выканаўцу Валерыя Панкова (ён праславіўся тым, што выканаў песні з дыснееўскіх мультсерыялаў "Чып і Дэйл спяшаюцца на дапамогу" і "Вуціныя гісторыі"). Наколькі вядома, ужо гатова 15 песень, сярод іх: "Зноў у СССР", "Учора", "Жоўтая падводная лодка", "Свінні" і г.д.

### АМАЛЬ БЯСШКОДНЫЯ

*"Якім чынам можна знізіць узровень радыеактыўнасці ядзерных адходаў?*

**Ю.МАРКАЎ,г.Барысаў".**

Работы ў гэтай галіне вядуцца, і рэчывы, якія здольны зніжаць узровень радыеактыўнасці ядзерных адходаў, створаны, у прыватнасці, групай французскіх навукоўцаў на чале з прафесарам Жакам Вісенам. Выпрабаванні і даследаванні праходзілі на працягу 4 гадоў.

Гэтыя рэчывы, якія атрымалі назву каліксарэны, дапамагаюць скарачаць аб'ём і вагу адходаў прыкладна ў сто разоў. Пасля апрацоўкі высокарадыеактыўныя склады могуць быць ушчыльненыя і захоўвацца на глыбіні 500 метраў, а слабарадыеактыўныя — на глыбіні 20 метраў. На падставе звестак, якія ўжо ёсць, можна будзе паменшыць і тэрмін, на працягу якога адходы з'яўляюцца небяспечнымі.

*Рубрыку вядзе Святлана КУЛІКОВА.*



### ФУНДАМЕНТАЛІСТЫ "ЗАСВЯЦІЛІСЯ" ЗНОЎ

*Забіты два іншаземцы.*

Імі аказаліся італьянец і француз. Згодна з паведамленнямі міністэрства замежных спраў Італіі, матывы забойства пакуль не высветлены, аднак мяркуецца, што гэта злачынства— справа рук ісламскіх фундаменталістаў.

### КАТАЛІЦКАГА ЛІДЭРА НАВЕДАЛА МУЗА

*Іаан Павел II напісаў кнігу, якая адрозніваецца сярод усіх астатніх каталіцкіх кніг.*

І перш за ўсё разнастайнасцю тэм. Аўтар разглядаў з пункту гледжання царквы розныя этапы гісторыі, творчасць каталіцкіх пісьменнікаў, ролю сусветнай гісторыі яўрэяў, марксістаў і жанчын.

### АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ– БУЙНЫМ ПЛАНАМ

*Канадскі атлет Бен Джонсан збіраецца перадаць гісторыю свайго жыцця на вялікім экране.*

Як вядома, Джонсан быў узнагароджаны на Алімпійскіх гульнях у 1988 годзе залатым медалём, а потым адхілены ад спорту пасля таго, як тэст на прымяненне допінгу даў станоўчы вынік. Некалькі месяцаў сям'ю Джонсана інтэрв'юіравала журналістка, якая цяпер занята пошукамі прадзюсера для фільма.

### МАДОННА МАРЫЦЬ ПРА ДЗІЦЯ

*Мадонна ў свае 36 гадоў хоча мець дзіця. Пра гэта яна заявіла ў сваім інтэрв'ю.*

Паводле слоў самой спявачкі, яе жаданая мара — стварыць сям'ю. Мадонна выказала шкадаванне з прычыны такой вялікай колькасці інтрыжак, якія мелі месца ў яе жыцці, і асабліва аб разрыве з Уорэнам Біці, якога яна "сапраўды вельмі кахала".

### НОВАЯ МІСІЯ КАТРЫН ДЭНЁЎ

*Непараўнальная Катрын Дэнёў стала добраахвотным паслом у ЮНЕСКО з місіяй захавання скарбаў кінематаграфіі.*

У гэтай новай "ролі" ў абавязкі Дэнёў будзе ўваходзіць дапамога ў кіраванні фондам, заснаваным у французскай сталіцы кінематаграфіі — Канах, а таксама аднаўленне старых фільмаў і захаванне каштоўных кінаархіваў.

## АТЫ-БАТЫ







Ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь пачаліся штогадовыя падагульняючыя спаборніцтвы на лепшую мотастралковую і танкавую роты. Спаборніцтвы армейцаў уключаюць некалькі этапаў — агнявая, тэхнічная і фізічная падрыхтоўка, ваджэнне танкаў і баявых машын пяхоты.

Пераможцы мінулага года — воіны трыццатай Гвардзейскай Іркуцка-Пінскай брыгады — спадзяюцца тытул лепшых не ўступіць.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ.**

## ПОСТАЦІ

# "Ён з вамі, вёсны..."

**□ Ніна МАЦЯШ**

Пасля яго засталася новая — пад старой бярозай — хата, пабудаваная і яго рукамі.

Застаўся малады сад, пасаджаны ім пад вокнамі гэтай хаты.

Засталася зусім адна яго матуля.

Засталіся сябры, якіх любіў ён і якія любілі яго.

Засталіся сабраныя ім кнігі.

Засталіся напісаныя ім вершы.

А сярод чарнавікоў, паэтычных варыянтаў і занатовак — чысцюткі тонкі сшытак у лінейку. Новенькі, некрануты...

Балюча гаварыць пра чалавека ў мінулым часе.

Тым пакутней, што гэты чалавек — Леанід Якубовіч — быў маім блізкім другам.

Захаваліся здымкі яго — высокага хударлявага юнака з летуценна-засяроджаным позіркам.

Зберагліся лісты яго — нешматлікія — жыў Лёня вельмі напружана і турботна. "А, магчыма, гэта ўсё таму, што ўсё і ўся прымаю я надзвычай хваравіта. Трэба было б больш светла, сонечна..."

Леаніда Якубовіча не стала ясным летнім ранкам яшчэ ў 1970 годзе. Ён працаваў на Салігорскім камбінаце — побач з вёскай Радкава. У той дзень — 8 чэрвеня — Лёня выйшаў на працу раніцай: першая змена пачыналася а шостай гадзіне. Калі спускаўся з клеццю ў шахту — здарылася бяда. На паверхню ён не вярнуўся. Яму ледзь споўнілася дваццаць два...

Пасля гібелі ў Лёні засталася паэтычная спадчына. Ведаючы, які патрабавальны ён быў у сваёй творчасці, яго сябры сабралі найбольш адметныя, выспеленыя вершы, выдалі зборнік, у якім творы размешчаны пераважна ў такой паслядоўнасці, у якой яны ствараліся. Не ўсё, магчыма, зроблена так, як меркаваў, як хацеў бы сам аўтар, але ж яго, хто зрабіў бы гэта найлепшым чынам, няма...

І ўсё ж ён з намі — Леанід Якубовіч,— трошкі наіўны, часцей удумліва-засяроджаны, шчыры і сціплы, усмешлівы і сур'ёзны. Вось возьмеш у рукі гэты пасмяротны зборнік, разгорнеш яго — і ён, Леанід, зробіць крок насустрач...

Жывучы ў бясконцых клопатах, якіх вымагае вясковы побыт, дбаючы не толькі пра ўласную будучыню, а і пра тое, каб ужо цяпер трошкі лягчэй жылося старой спрацаванай маці, хлопец навучыўся адольваць неспрыяльныя абставіны, навучыўся мужнасці, не здрадзіўшы арганічна ўласцівай яго душы пяшчоце. "Можа, яно і лепш так, заставацца сам-насам з усім. Тады неяк лепш цэніш і разумееш усё светлае".

Сярод яго вершаў няма ніводнага верша-скаргі...

Кідаюцца ў вочы ўлюбёныя паэтычныя вобразы Л.Якубовіча: сонца, раніца, сцежка, птушка, вясна ("Прыйдзе яна, і чалавек адчуе ўсю сваю светласць").

Цікава, што пасля дзесяцігодкі Лёня працаваў паштавіком. Потым, адчуваючы патрэбу як мага хутчэй авалодаць сталымі літаратурнымі навыкамі, удасканаліць тэхніку творчасці і спадзеючыся навучыцца гэтаму ў журналісцкай дзейнасці, ён уладкаваўся ў рэдакцыю газеты "Шахцёр". Але неўзабаве не вытрываў, пайшоў на шахту. Л.Якубовіч не проста летуценіў пра дабро і шчасце людзей, ён прагнуў поўнай мерай сваіх магчымасцей памнажаць іх набыткі,— і ў такім жыццёвым вопыце ўзбагачаць вопыт літаратурны.

Мабыць, няцяжка заўважыць, як няўтомна і шматабяцальна пачынала сталець пяро маладога паэта. Пакрысе знікаюць з радкоў залішне прыгожыя словы, сузіральнасць і дыдактызм. З кожным новым вершам усё больш напружана і паэтычна дакладней афармляецца думка. "Жыта заўсёды жнуць, калі яно добра выспее, калі зярняты, здаецца, звоняць пад жнівеньскім ветрыкам. Так павінна быць і ў пісьменнікаў: брацца за пяро толькі тады, калі адчуваеш, што ўжо ўсё выспела ў душы для новага твора — так і звоніць добрымі вобразамі, добрымі думкамі". Усё вастрэй узнімаюцца праблемы, якія хвалююць нашага сучасніка. Аб гэтым у вершах "Нараджаемся не для смерці", "Кастусю Каліноўскаму", "Пошук", "Кроў, кажуць, не дыміцца", "Не ад нявер'я, не!..", "Жыццё — нібы цягнік..." Усё больш удумлівы пошук сэнсу жыцця, усё глыбейшае адчуванне ўласнай адказнасці перад Радзімай, перад гісторыяй, перад будучыняй. "А паэзія — гэта тая ж рака, у якой уся свежасць, уся чысціня яе — у глыбіні". Л.Якубовіч спасцігаў гэта і — прагнуў настаўніка, прагнуў вучобы. І як жа быў удзячны ўсім, хто асвятляў яму дарогу сваёй уважлівасцю, зацікаўленасцю ў яго паэтычным лёсе!

"Як мала я пішу! Аж страшна... І ўсё гэта нявыкрутка з часам". Рабіць усё, што трэба, каб не пуставала матчына поле, будаваць новую хату, бо ў старой жыць не было ўжо як, працаваць і вучыцца завочна ў Белдзяржуніверсітэце... У яго хапала сіл, хапала вытрымкі. А вершы пачынаюць дыхаць яшчэ большай напорыстасцю, баявітасцю, бескампраміснасцю да ўсяго нізкага, пачварнага, што засціць нам сонца. Ягонае сонца — Чалавека. Сонца даверу, людскасці, душэўнага характва...

Сярод яго шматлікіх паэтычных варыянтаў (пісалася Лёню нялёгка) застаўся чысты сшытак у лінейку... Горка думаць пра тое, што б магло быць і збыцца чаму ўжо не суджана.

...Аднойчы пачуў ён
Імклівую мелодыю крыл,
Светлыя гукі сонечных
промняў
Велічныя акорды лесу,—
Аднойчы спасціг чалавек
музыку...



**Леанід ЯКУБОВІЧ**

***

*Не ад нявер'я, не! — Ад веры*
*Стартуюць новыя шляхі.*
*Нявер'е зроду не паверне*
*У шум нязведаных стыхій.*

*Нам камень ісціны гарачы*
*Далоні колка апячэ.*
*Пагляд засвеціцца іначай,*
*Пагляд засвеціцца ярчэй.*

*Гараць кастры*
*першапраходцаў*
*Агнём прыветных маякоў.*
*Ды шлях пазначан не бясконца*
*Ў глыбокай засені вякоў.*

*Нявер'е спыніць на спачынак,*
*Няверны вочы адвядзе.*
*З даверам вернаму Айчына*
*На плечы рукі пакладзе.*

*Адступяць змрочныя бар'еры*
*І — расхінецца край глухі...*
*Не ад нявер'я, не!— Ад веры*
*Стартуюць новыя шляхі.*

***

*Нараджаемся не для смерці,*
*Нараджаемся мы, каб жыць,*
*Ды страла нацэлена ў сэрца,*
*Праз вякі ўжо страла ляціць.*

*Чорны продак не быў пракорам*
*(Лук ды стрэлы — залог*
*жыцця),*
*Ён не думаў, што так глыбока*
*Гэты свет зялёны працяў.*

*Быў суседства закон трывожны,*
*Быў давер, як напяты лук.*
*Рух адчайны вопыт памножыў*
*На свядомасць мільёнаў рук.*

*Шлях стралы дарогі намеціў,*
*Кроў, як вехі вякоў, гарыць...*
*Нараджаемся ж не для смерці,*
*Нараджаемся мы, каб жыць.*

## ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

### З РАБОТЫ... У ТРУНЕ

*Як паведаміў намеснік старшыні дзяржаўнай інспекцыі працы Уладзімір Ласкаўнеў, за дзевяць месяцаў гэтага года ў выніку вытворчага траўматызму ў рэспубліцы развіталіся з жыццём 270 чалавек.*

**Найбольшая колькасць загінуўшых — 63 — у Мінскай вобласці. У Гомельскай вобласці на рабочых месцах загінула 50, у Віцебскай — 40 чалавек. Сярод галін па гэтаму сумнаму паказчыку лідзіруе Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання — 14 траўм са смяротным зыходам.**

**Асноўнымі прычынамі няшчасных выпадкаў на вытворчасці, паведамляе інспекцыя, з'яўляюцца нізкая працоўная і вытворчая дысцыпліна, эксплуатацыя няспраўных машын і механізмаў, парушэнне правіл дарожнага руху. Кожны пяты з загінуўшых знаходзіўся на рабоце ў нецвярозым стане.**

**БЕЛІНФАРМ.**

## СТРАКАТАЯ МАЗАІКА

### ВЯТЛІЦКАЯ – ЧАЛАВЕК КАМЕРЦЫЙНЫ

Так сама спявачка Наталля Вятліцкая вызначае галоўную рысу свайго характару. Яна не ўтойвае, што працуе для "новых рускіх", выступае, у асноўным, у начных клубах і дыскатэках, куды білет каштуе дзесяткі, а то і сотні даляраў, таму што хоча быць незалежнай, а "незалежнасць вызначаюць грошы". Затое сама аплачвае свае кліпы, а кожны з іх каштуе 20—25 мільёнаў рублёў, з'яўляецца аўтарам усіх ідэй сваіх кліпаў, а некалькі з іх нават манціравала сама.

У яе рэпутацыя дзіўнай жанчыны. Жыве ў гасцініцы, копіць грошы на будаўніцтва загараднага дома і ў той жа час калекцыяніруе карціны, трымае ў якасці хатняй жывёлы леапардзіка. Зараз піша кнігу, дзе паводле яе слоў, праўда пераплецена з выдумкай.

### БІЗОН СМАЧНЕЙШЫ ЗА РАСЛІНЫ

Так лічыць вядомая Джэйн Фонда, вядомая не толькі як кінаактрыса, але і як вегетарыянка і абаронца жывёл. Раптам яна перамяніла сваё захапленне і цяпер агітуе есці мяса бізона, якое яе амаладзіла, паколькі практычна не ўтрымлівае халесцэрола. Дарэчы, Джэйн Фондзе мяняць свой імідж не ўпершыню. Яна была заўзятай праціўніцай вайны ў В'етнаме, а потым стала штатным супрацоўнікам дзяржустановы, выступала супраць хітрасцей, з дапамогай якіх жанчыны хаваюць свой узрост, але сама зрабіла касметычную аперацыю. І кожны раз пасля такога крутога павароту ў сваіх уяўленнях — новая цікавасць з боку журналістаў і публікі.

### ПІНГВІНАМ ПАГРАЖАЕ АТЛУСЦЕННЕ

У 1981 годзе ў Антарктыцы было каля 400 тысяч "сямейных" пар пінгвінаў. А зараз іх мільён. Справа ў тым, што з-за парніковага эфекту ў пацяплелыя воды Антарктыкі заплывае шмат рыбы. У выніку пінгвіны не толькі сталі лепш размнажацца, але і, паводле думкі спецыялістаў, патаўсцелі.

### БОЙЦЕСЯ ЧАРАПАШАК– НІНДЗЯ

Героі папулярных мультфільмаў — чарапашкі-ніндзя— значна павысілі папулярнасць чарапах. За апошні год іх экспарт з Амерыкі ў Еўропу вельмі ўзрос. Усё б нічога, але еўрапейскі клімат спадабаўся гэтым жывёлам, многія з іх на новым месцы дасягнулі вагі да пяці кілаграмаў і сталі агрэсіўнымі. Усё часцей фіксуюцца выпадкі, калі чарапахі нападаюць на людзей.

### У ЦЫГАНОВАЙ ТРАНСПАРТУ ХАПАЕ

Бізнесмены горада Тальяці падарылі спявачцы Вікторыі Цыгановай у час яе гастроляў адразу два аўтамабілі "Жыгулі". "Дзевятку" Віка пакіне сабе, 99-ю мадэль мае намер адаслаць бацькам у Хабараўск або свёкру ў Валгадонск. Яшчэ ў Тальяці яе кампакт-касета "Каханне і смерць" была прададзена на аўкцыёне за 4 мільёны рублёў. Гэтай сумы, на думку спявачкі, хопіць для прыбудовы да загараднага дома стайні, у якой будзе жыць пяцігадовы скакун, падораны Вікторыі кадзецкім корпусам імя Імператара Аляксандра III з Новачаркаска пасля яе сольнага канцэрта ў "Расіі".

### СЫН ХУСЕЙНА ТАКСАМА СУПРАЦЬ КАРУПЦЫІ

Да 28 гадоў сын Садама Хусейна Удэй жыў як багаты гультай. Але вось ужо два гады, як заснаваў у Багдадзе юнацкае тэлебачанне, якое рэзка адрозніваецца па зместу праграм ад дзяржаўнага. Па тэлеканале, якім кіруе Удэй, перадаецца шмат рок-музыкі і палітычных перадач. А ў апошніх расказваецца аб карупцыі ва ўрадзе. Але пра самога Садама Хусейна сын нічога дрэннага не гаворыць.

